*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 44(429)** **3 ЛІСТАПАДА 1999 г.**

## Звесткі пра развал БНФ "некалькі перабольшаныя"

30-31 кастрычніка ў Менску прайшла другая сесія VI з'езда БНФ. Як і чакалася група раскольнікаў паспрабавала сарваць з'езд. Але ім удалося толькі адцягнуць пачатак на 18.00.

На з'езд прыехала 260 дэлегатаў з усіх мясцін Беларусі, што склала 79 працэнтаў ад усіх вылучаных дэлегатаў і зрабіла з'езд цалкам легітымным. З'езд вырашыў асноўную задачу, абраў кіраўнічыя органы БНФ.

Старшынём БНФ "Адраджэньне" абраны Вінцук Вячорка. За яго прагаласавала 228 дэлегатаў. Яго апанент Зянон Пазьняк атрымаў 11 галасоў. Такая сакрушальная параза – вынік раскольніцкай дзейнасці яго і яго памагатых. У з'ездзе прыняла ўдзел вялікая колькасць дэлегатаў, якая раней прымыкала да КХП. Гэта такія вядомыя дзеячы беларускага адраджэння, як рэдактар газеты "Пагоня" Мікола Маркевіч, былы старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі Кас-тусь Жынь і інш.

З'езд абраў шэсць намеснікаў старшыні:
Алесь Беляцкі
Віктар Івашкевіч
Павел Севярынец
Вячаслаў Сіўчык
Анатоль Фёдараў
Юрась Хадыка.

З'езд абраў Сойм з 49 чалавек:
Вячорка
Шыдлоўскі
Баршчэўскі
Севярынец
Быкаў
Барадулін
Беляцкі
Арлоў
Хадыка
Анцулевіч
Вольскі
Голубеў
Івашкевіч
Астроўскі
Заблоцкі
Сіўчык
Мальчык
Мухіна
Суднік
Нікітчанка
Грыцкевіч
Фёдараў
Гусак
Аскерка
Баўсюк
Паўленка
Пальчэўскі
Саверчанка
Пачкаеў
Трусаў
Баўтовіч
Станкевіч
Скрабатун
Скочка
Тругубовіч
Лабковіч
Лобан
Алейнікаў
Раманішка
Капуцкі
Кавалёў
Кунцэвіч
Стральцоў
Мурашка
Свізуноў
Калубовіч
Марозаў
Шут
Янукевіч

З'езд абраў Рэвізійную камісію з пяці чалавек:
Бартлаў Лявон
Дзіцэвіч Людміла
Жданюк Зміцер
Ілюкевіч Уладзімір
Ляпарская Ларыса

З'езд устанавіў квоты ў Сойм для тэрыторый і моладзі.

З'езд прыняў шэраг заяў і рэзалюцый.

Чаканы правал з'езда не адбыўся. Адкалоўшаяся група дэлегатаў (каля 90 чалавек) не ўяўляе сабой нейкай палітычнай, ці грамадскай структуры

31 кастрычніка прайшоў IУ з'езд Партыі БНФ. Прысутнічала 215 сяброў партыі з 288 абраных.

З'езд прыняў справаздачы Лявона Баршчэўскага і Рэвізійнай камісіі.

На безальтэрнатыўнай аснове старшынём Партыі БНФ абраны Вінцук Вячорка.

Абраны намеснікі:
Алесь Беляцкі
Віктар Івашкевіч
Павел Севярынец
Вячаслаў Сіўчык
Анатоль Фёдараў
Юрась Хадыка.

Абраны Сойм з 44 чалавек і Рэвізійная камісія з трох чалавек.

*Станіслаў Суднік.*

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Напэўна не адзін народ на свеце так не цураецца сваёй мовы, як наш. Мы яе саромеемся, мы яе не ведаем. Вясковыя дзеці, ступіўшы на асфальт, забываюць роднае слова, бо ў гарадах яны яго, бадай, не чуюць.

**Рамаі Калеснікаў**
**Газета Слонімская № 13**

*Яны (службоўцы – Я.П.) губяць беларускую школу пры дапамозе хлусні пра тое, што на адукацыю па-беларуску няма грошай. Яны не друкуюць Васіля Быкава ды іншых беларускіх аўтараў, хлусяць, быццам бы іх ніхто не чытае. Сам А.Лукашэнка заявіў, што па-беларуску нельга выказаць глыбокіх думак.*

***Сяргей Самасей***
***"Пагоня" 14.10.99г.***

У старажытнай гарадзенскай Барысаглебскай (Калožскай) царкве з мінулай нядзелі распачаліся рэгулярныя набажэнствы на беларускай мове.

Казанні святара айца Аляксандра збіраюць шмат вернікаў. Вялікай папулярнасцю карыстаецца і царкоўны хор пад кіраўніцтвам кампазітара Андрэя Бандарэнкі.

**Антон Лабовіч**
**"Пагоня" 14.10.99 г.**

*Што рабіць, калі табе даюць у рукі ўлётку "Марша свабоды" або газету "Навіны", дзе няма ні слова па-беларуску? Не чытаць?*

***"Раскольны рух"***
***"Наша Ніва" 25.10.99 г.***

## Адкрыты ліст старшыні Менскага гарадскога выканаўчага камітэта У.В.Ярмошыну

Паважаны Уладзімір Васільевіч!

Падчас нашай сустрэчы 27 жніўня гэтага года Вамі была выказана думка аб тым, што ўжо сёння горад гатовы надаць тром сталічным вуліцам імёны выдатных дзеячоў гісторыі і культуры нашай дзяржавы, а менавіта – Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францішка Багушэвіча.

У сувязі з гэтым дасылае Вам шэраг канкрэтных аргументаваных прапаноў, да якіх, акрамя згаданых, лічым неабходным дадаць імя Адама Міцкевіча і першага рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзіміра Пічэты.

Вуліцу Калектарную прапануем назваць імем выдатнай беларускай і ўсходнеславянскай асветніцы Еўфрасінні Полацкай, вядомай кожнаму жыхару нашай дзяржавы, незалежна ад канфесійнай і нацыянальнай прыналежнасці.

Імя яшчэ аднаго выдатнага сына Беларусі – сучасніка Еўфрасінні Полацкай, пісьменніка і прапаведніка Кірылы Тураўскага магла б, на наш погляд, насіць вялікая і сучасная вуліца Ангарская. Яе назва ніякім чынам не звязаная з Беларуссю.

Вуліцы Валадарскага (або Рэвалюцыйнай) прапануем надаць імя нашага славутага суайчынніка, вядомага ва ўсім свеце паэта Адама Міцкевіча, 200-годдзе якога нядаўна было шырока адзначана ў Беларусі. Важным аргументам на карысць такога перайменавання служыць той факт, што якраз у раёне дзвюх гэтых вуліц плануецца адчыніць помнік геніяльнаму паэту.

Вуліца Інтэрнацыянальная магла б насіць імя выдатнага беларускага паэта Францішка Багушэвіча, чыя памяць у Менску пакуль ніяк не ўшанавана. Менавіта ў раёне сучаснай вуліцы Інтэрнацыянальнай знаходзіўся дом, у якім Ф.Багушэвіч спыняўся, калі бываў у Менску па пытаннях сваёй адвакацкай практыкі і літаратурнай творчасці.

Вуліцы Ленінградскай, дзе знаходзяцца некалькі універсітэцкіх будынкаў, прапануем надаць імя першага рэктара БДУ, знакамітага вучонага і педагога Уладзіміра Пічэты. Сучасная назва гэтай вуліцы жыхарамі і гасцямі горада ўспрымаецца з поўным неразуменнем, бо горад Ленінград даўно перайменаваны ў Санкт-Пецярбург.

Спадзяёмся, што нашыя прапановы, абмеркаваныя і прынятыя Сакратарыятам ТБМ, будуць ухвалены і рэалізаваныя гарадской уладай.

З павагай.

***Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў.***

## Павесілі шыльды

Як вядома чытачам "Нашага слова", сакратарыят ТБМ яшчэ на пачатку лета звярнуўся з лістом да старшыні Савета Міністраў сп.С.Лінга, дзе выказваў сваю заклапочанасць станам беларускай мовы і пытаўся ў кіраўніка ўраду, што ён сам думае пра матчыну мову, і што робіць урад для яе захавання і развіцця.

Усе тэрміны для рэагавання на ліст прайшлі, а з урада ў ТБМ адказу не прыйшло. Тым не менш нам вядома, што ліст прачыталі. Пра гэта сведчыць з'яўленне на ўваходзе ў Савет Міністраў беларускай шыльды. Раней там была толькі шыльда на расейскай мове, чым мы, у прыватнасці, і абураліся. Беларускую шыльду павесілі і на ўваходзе ў Нацыянальны сход. Праўда ля трэцяга ўваходу, дзе вісіць расейская шыльда Рэспубліканскай камісіі па выбарах, беларускай шыльды так і не з'явілася. Праўда, што ўваход гэты не зусім прыкметны, бо знаходзіцца за елачкамі, якія тут растуць. Відаць падумалі, што не заўважаць...

***Палсцюк Валеры.***

У мінулы чацвер 21 кастрычніка адбыўся чарговы Сакратарыят, на якім разглядаліся надзённыя пытанні. Па першым пытанні былі разгледжаны заяўкі суполак на прыём у ТБМ і зацверджана іх сяброўства.

Па другім пытанні была задаволена просьба суполкі "Спаемства" аб выдзяленні часу для паседжанняў у сядзібе ТБМ. Цяпер "спаемнікі" будуць збірацца па чацвяргах у 18.30.

Трэцім адбылося зацвярджэнне ўзору каляндарыка ТБМ на 2000 год, які ў хуткім часе плануецца надрукаваць. Яго выява будзе пададзена ў "НС".

***Алесь Гурыновіч.***

### Падпіска на апошнія месяцы 1999 года

Актыўны ўдзел у падпіснай кампаніі на IУ квартал 1999 г. прынялі сябры Магілёўскай абласной Рады ТБМ. З іх дапамогай Сакратарыят падпісаў 16 бібліятэк Клімавіцкага і 12 бібліятэк Касцюковіцкага раёнаў. У Менску падпісаны і 13 бібліятэк Пухавіцкага раёна.

## Мітынг-рэквіем у Курапатах

31 кастрычніка ў Курапатах прайшоў мітынг-рэквіем у памяць ахвяр палітычных рэпрэсій. Ад ТБМ на мітынгу выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў.

### Дарагія Марыя і Павел Знаўцы!

Сардэчна віншуем з вялікай падзеяй у жыцці Вашай сям'і, нараджэннем сына Максіма. Жадаем яму быць вартым свайго бацькі, нашага воя ў змаганні за незалежнасць Бацькаўшчыны. Хай зорка Максіма Багдановіча, у гонар якога Вы назвалі свайго першанца, асвятляе яго жыццёвы шлях.

Здароўя, шчасця, кахання і дабрабыту Вашай сямейцы.

***Сакратарыят ТБМ.***

# У нас невялікі юбілей. Два гады назад 1 лістапада 1997 года выйшаў першы нумар "Нашага слова" ў Лідзе.





*Уладзімір Арлоў*

# АДКУЛЬ НАШ РОД

*(Працяг)*

## Францішак Скарына

### Дзіцячыя гады

Будучы славуты сын нашага народа нарадзіўся пяцьсот гадоў таму ў старажытным Полацку. Некалькі стагоддзяў Полацк быў самым буйным і багатым горадам у Вялікім княстве Літоўскім. Тут жыло шмат майстроў і купцоў, якія гандлявалі таварам у блізкіх і далёкіх краінах. Бацька малога Францішка таксама быў купцом. Яго звалі Лукаш.

Дом Скарынаў стаяў недалёка ад Сафійскага сабора, пабудаванага князем Усяславам Чарадзеем. Зусім побач рэчка Палата злівалася з Дзвіною. Як і ўсе полацкія хлапчукі, Францішак часта прыходзіў на бераг з вудамі, а ў летнюю спёку любіў даць нырца ў чыстую рачную ваду.

У горадзе было багата манастыроў і цэркваў, пры якіх існавалі школы. У адной з іх Францішак навучыўся чытаць і пісаць, даведаўся пра слаўнае мінулае Беларусі. Ён ганарыўся родным горадам і выдатнымі людзьмі, што жылі тут у розныя часіны. Настаўнікі былі вельмі задаволеныя сваім здольным вучнем.

Францішак падрастаў і пачынаў задумвацца пра далейшае жыццё. Ён часта ўспамінаў асветніцу Еўфрасінню. Хлопчык ужо разумеў, што магутнасць роднай зямлі залежыць не толькі ад князёў і іхняга войска, але і ад асветы яе жыхароў. Чым больш будзе людзей адукаваных, тым мацнейшая стане дзяржава.

### Кракаўскі універсітэт

Сын Лукаша Скарыны хацеў вучыцца далей. Ад бацькі і ад настаўнікаў ён ведаў, што на захадзе, у буйных еўрапейскіх гарадах, ёсць найвышэйшыя школы, якія называюцца універсітэтамі. Але прымаюць туды адно тых, хто ведае лацінскую мову. Гэтую мову тады трэба было ведаць кожнаму адукаванаму чалавеку. На ёй ішлі заняткі ва універсітэтах, на ёй гаварылі і пісалі свае кнігі вучоныя.

Францішак пачаў вучыць лацінскую мову ў полацкіх манахаў-бернардзінаў. Ён ужо цвёрда вырашыў паступаць у Кракаўскі універсітэт. Полацкія купцы часта ездзілі ў польскі горад Кракаў, дзе быў найбліжэйшы ад Беларусі універсітэт. Аднойчы разам з імі выправіўся з дому і Францішак.

Таленавіты юнак без цяжкасцяў стаў студэнтам. Ён, вядома, сумаваў па радзіме, але ў Кракаве вучылася шмат моладзі з Беларусі. Універсітэцкія дакументы расказваюць, што адначасова са Скарынам там займаліся Ян і Паўла з Гародні, Станіслаў з Клецка, Вінцэсь са Слуцка, Мікола з Ашмянаў, Марка з Нямігі. З землякамі заўсёды можна было пагаварыць па-беларуску, памарыць пра тое, як яны вернуцца дадому і будуць дзяліцца з суайчыннікамі сваімі ведамі.

Францішак вывучаў арыфметыку, геаметрыю, музыку. На лекцыях па астраноміі студэнты спасцігалі таямніцы зорнага неба, а на занятках па рыторыцы вучыліся майстэрству прыгожа гаварыць. Гэтыя навукі ў той час зваліся вольнымі мастацтвамі. Лекцыі студэнтам чыталі славутыя прафесары, а ва універсітэцкай бібліятэцы было шмат кніг знакамітых вучоных.

Студэнты жылі ўсе разам у інтэрнаце, які называўся бурсай. Яны сябравалі паміж сабой, заўсёды дзяліліся і кнігамі, і ежай. Жыццё было небагатае, але вясёлае. Праўда, знаходзіліся ў бурсе і такія, што сачылі за таварышамі і бегалі даносіць на іх універсітэцкаму начальству. Яны дакладвалі, што нехта не пагаджаецца з прафесарам, а нехта парушае правіла і на занятках гаворыць з сябрамі не па-лацінску, а па-свойму. Даносчыкаў называлі люпусамі – ад лацінскага слова "люпус", што значыць "воўк".

Люпусаў, зразумела, не любілі і часам каралі. Аднаго з іх, напрыклад, пасадзілі ўначы ў мех і прысудзілі ўтапіць у рацэ. Гэта быў толькі жарт, і даносчыка кінулі ў звычайную лужыну. Але ён так напалохаўся, што, выбраўшыся з меха, падумаў, нібыта ўжо трапіў на той свет.

### Падарожжа ў Падую

Пасля вольных мастацтваў Скарына вывучаў у Кракаве медыцынскія навукі. У той час дактароў было яшчэ вельмі мала. Калі пачыналася чума, халера ці іншая пошасць, паміралі дзесяткі тысяч людзей.

Францішак хацеў лячыць чалавечыя душы мудрым кніжным словам, а чалавечыя целы – падзейнымі і добрымі лекамі. Ён вырашыў паехаць у італьянскі горад Падую. Там знаходзіўся універсітэт, вядомы сваімі вучонымі-медыкамі.

У восень далёкага 1512 года ў адным з падуанскіх сабораў сабраліся самыя знакамітыя дактары медыцыны. Старшыня сходу паведаміў, што ў горад прыбыў надзвычай вучоны малады чалавек, які просіць дазволу здаць экзамен па медыцыне.

У Італіі амаль нічога не ведалі пра Беларусь. Яе лічылі нейкай амаль казачнай краінаю. У некаторых тагачасных кніжках цалкам сур'ёзна сцвярджалася, што на берагах Дзвіны, Дняпра і Нёмана зоркі свецяць удзень і ўначы, па гарадскіх вуліцах гуляюць белыя мядзведзі, а людзі маюць на адным воку пасярод ілба.

Як ні дзіўна, вачэй у сына купца Лукаша з Полацка было двое, а па-лацінску ён гаварыў не горш за прафесараў Падуанскага універсітэта. Падарожнік упэўнена адказаў на ўсе пытанні і выклікаў ва ўсіх вялікую павагу.

Слугі прынеслі ў залу дзве вазы – чырвоную і зялёную, а таксама шары гэтых колераў. Вучоным трэба было галасаваць. Хто падаваў свой голас за тое, каб дазволіць Скарыну здаць экзамен на званне доктара медыцыны, павінен быў пакласці свой шар у чырвоную вазу, а хто супраць – у зялёную. Усе кінулі свае шары ў чырвоную.

Праз колькі дзён Скарына бліскуча здаў экзамен і першы сярод усходніх славянаў стаў доктарам медычных, або, як тады казалі, лекарскіх, навук. У той час ён ужо быў і доктарам вольных мастацтваў.

### Кнігі з Парыжскай друкарні

Доктар медыцыны мог пайсці прыдворным лекарам да каго-небудзь з уладароў і жыць пад ягонай абаронаю заможна і шчасліва. Але думкі Скарыны былі пра іншае. Так, ён будзе змагацца з хваробамі, што нярэдка спустошваюць на Бацькаўшчыне вёскі і цэлыя гарады. Але яго найбольш непакоіла духоўнае здароўе народа. На ўсход ад Вялікага княства Літоўскага мацнела ваяўнічая Маскоўская дзяржава, што прагнула захапіць беларускія землі. На захадзе было Польскае каралеўства, якое таксама разлічвала пазбавіць нашых продкаў незалежнасці.

Скарына разумеў, што наперадзе ў Беларусі цяжкія выпрабаванні. Каб умацаваць дух народа і ягоную веру ў свае сілы, вучоны палачанін вырашыў даць землякам шмат мудрых кніг на зразумелай кожнаму мове.

У многіх еўрапейскіх гарадах ужо існавалі друкарні. Кнігі не трэба было перапісваць. Іх хутка і прыгожа друкавалі адмысловыя друкарскія машыны.

Францішак Скарына пазнаёміўся з дасведчымі друкарамі і ўзяўся старанна вывучаць іхняе майстэрства. Ён напісаў на Бацькаўшчыну лісты і папрасіў багатых людзей дапамагчы яму грашыма, каб набыць паперу, фарбу ды іншыя патрэбныя рэчы. Пачаць выданне сваіх кніг ён вырашыў у сталіцы Чэхіі горадзе Празе, сярод блізкага па мове і прыязнага да беларусаў народа.



***Цар Давыд грае ў гуслі.*** Гравюра з Бібліі Скарыны

6 жніўня 1517 года Скарына выдаў сваю першую кнігу. Яна называлася "Псалтыр". Услед за ёю ён надрукаваў у Празе яшчэ дваццаць дзве кнігі. Усе яны былі часткамі старажытнай кнігі – Бібліі. Скарына сам пераклаў яе на зразумелую беларусам мову.



Да сваіх кніг доктар Францішак пісаў прадмовы і пасляслоўі. Там ён тлумачыў сэнс падзей, пра якія апавядаецца ў Бібліі. Скарына вучыў глядзець на яе не толькі як на святую кнігу пра Бога, але яшчэ і як на падручнік па самых розных навуках. Ён пісаў, што Біблія – гэта найкаштоўнейшая кніга чалавечае мудрасці. У творах, што выходзілі з-пад ягонага пяра, асветнік вучыў зямлякоў любіць радзіму так аддана, як птушкі любяць свае гнёзды і як пчолы бароняць свае вуллі.

Кнігі Францішка Скарыны былі першымі друкаванымі выданнямі не толькі ў беларусаў, але і ў іншых усходнеславянскіх народаў. Таму вучонага палачаніна называюць беларускім і ўсходнеславянскім першадрукаром.

Першая друкаваная кніга ў рускіх з'явілася амаль на пяцьдзесят гадоў пазней за нашу.

### Партрэт першадрукара

Надзвычай цікава разглядаць цудоўныя малюнкі-гравюры Скарынавых кніг. На іх –біблійныя героі, але яны апрануты так, як апраналіся ў тыя часы беларусы. Сённяшнія гісторыкі вывучаюць на гэтых ілюстрацыях побыт нашых продкаў, іхняе адзенне, тое, як яны будавалі дамы і палацы.

Некаторыя вучоныя лічаць, што Скарына сам рабіў да сваіх кніг малюнкі. На адным з іх мы бачым партрэт першадрукара. Скарына працуе ў кабінеце сярод кніг і навуковых прылад. Цішыню і глыбокі роздум вучонага вартуюць скульптуры львоў. Вадзяны гадзіннік нагадвае пра тое, што час ляціць вельмі хутка і чалавек павінен траціць яго на пустыя і нявартыя справы. А вось – пчала. Гэта напамінак, што трэба браць прыклад з яе працавітасці. На партрэце можна знайсці кошыкі для збору лекавых раслін, якія Францішак добра ведаў з дзяцінства.

Сам першадрукар у доктарскай мантыі і ў барэтцы



**Францішак Скарына**

сядзіць за рабочым сталікам. У руках у яго пяро, перад ім – сшытак, а справа – вялікая разгорнутая кніга. Скарына перакладае Біблію.

На гэтым партрэце змешчаны і герб першадрукара – сонца і месяц у час зацмення. Яго тлумачаць па-рознаму, але можна беспамылкова сказаць, што герб сцвярджае перамогу святла над цемраю, ведаў над невуцтвам, жыцця над смерцю. Менавіта гэтаму прысвяціў Скарына сваё жыццё.

*(Працяг у наступным нумары.)*

